ISSN 5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Бышых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ' Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans.

Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2

U.S. Post: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904, U. S.

**Год 13** Лістапад, 1987 Нр. 4 (48)

# ПРАЕКТ

Мастацкая літаратура ў розных сваіх жанрах ёсьць асноваю духовае культуры разьвітых народаў. Усялякімі шляхамі — уключна із ганаровымі ці матар'яльнымі ўзнагародамі — таленавітыя творчыя людзі заахвочваюцца, каб больш плённа працавалі для ўзбагачэньня скарбаў свае мастацкае літаратуры.

Некалі наш пясьняр-волат Янка Купала заклікаў:

*"Занімай, Беларусь, маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між народамі!"*

Дзякуючы наступу наглай Маскоўшчыны, дагэтуль Беларусь заняла не пасад, а нейкае ненаседжанае месца між "братніх народаў сацыялістычнае садружнасьці", значыцца апынулася ў Гулагу маскоўскіх рабоў і сатэлітаў. Варвар заліў бацькаўшчыну Купалы акіянам расейшчыны, душыць ейны апрычоны духова-культурны рост, плянава імкнецца да зьнішчэньня Беларусі, як нацыі.

Купала, вядома-ж, клікаў "маладую Беларусь", каб заняла "свой пачэсны пасад" **між вольных народаў,** а туды, у сьвет вольных, із пустой торбай ня пойдзеш. Бо гутарка йдзе ня толькі пра палітычны, але й культурны пасад, бо — ці патрэбна гэта каму тлумачыць? — бяз разьвітай і высокай культуры нельга здабыць і запраўдную палітычную вольнасьць. Пакуль-жа табе дзьверы ў гэну сям'ю між вольных на пасад адчыняць, дык абавязкава пацікавяцца, якія духовыя скарбы із сабой валачэш, ды ці ёсьць у вас тытаны розуму й духу, што маглі-б сесьці, прыкладна, побач Гомэра, Дантэ, Гётэ, Шэкспіра, Бальзака, Міцкевіча, Шаўчэнкі, Дастаеўскага...

Мы, Беларусы, што шануем і высока цэнім сваіх выдатных тварцоў мастацкага слова, яшчэ добра не асэнсавалі ў якіх цяжкіх ці навет немагчымых умовах яны тварылі скарбы нашае культуры. Больш таго, мы й цяпер замала цікавімся як памагчы нашым літаратарам. Найлепшым доказам гэтага ёсьць тое, што за блізу сорак год існаваньня й працы сьведамае беларускае эміграцыі ў Вольным Сьвеце, — эміграцыі, якое палітычныя лідэры цэлы час дэкляруюць, што вядзём змаганьне **за вызваленьне Беларусі, —** за гэты час ня створана ніводнае інстытуцыі, якая-б памагала тварцом беларускае мастацкае літаратуры, ці , накш гаворачы, памагала-б нашай літаратуры расьці й стацца вялікай.

У нас ёсьць матар'яльныя й людзкія сілы такую неабходную інстытуцыю стварыць, а дзеля таго, што адклад ня йдзе на нашую карысьць, прапануецца пад развагу яе заснаваньне.

Назоў: Фундацыя Францішка Багушэвіча.

Месца ўправы: ЗША-Канада.

Мэты: Устанаўленьне ўзнагародаў — прэміі Багушэвіча — у адпаведнай вышыні за найлепшыя творы ў беларускай літаратуры ў розных жанрах.

Заахвочваньне літаратараў і навукоўцаў як беларуска- так і іншамоўных, каб апрацоўвалі **беларускую тэматыку.**

Калекцыя й выкарыстоўваньне матар'ялаў пра Беларусь зь іншамоўных друкаваных і іншых крыніцаў.

Выдаваньне бюлетэняў, ці часапісаў у беларускай і ангельскай мове, каб трымаць кантакт із сябрамі Фундацыі ды інфармаваць чужынцаў пра навіны беларускае культуры.

Сродкі: Дабравольныя ўклады сяброў Фундацыі ды прыбыткі ад іншых інстытуцыяў, што падтрымліваюць разьвіцьцё культуры паняволеных усходня-эўрапэйскіх народаў.

Гэты наш сьціплы праект аддаём пад развагу зацікаўленых суродзічаў і просім усіх, добра памяркаваўшы, адгукнуцца, даць свае заўвагі й парады. Калі знойдзецца між нас зацікаўленасьць, — бо аб патрэбе ці даводзіцца гаварыць, — тады можна будзе пачаць крокі для рэалізацыі гэтага праекту.

На нашу думку, такую ці падобную інстытуцыю трэба было стварыць прынамся чверць стагодзьдзя назад. Можна, ведаючы нашу эміграцыйную штодзённасьць, прадбачыць у бальшыні на гэту прапанову нэгатыўныя рэакцыі. Дзеля гэтага могуць быць высунутыя ўсялякія аргументы, як прыкладна: за гэта мусіла-б узяцца моладзь, у старэйшых і адданых нацыянальна-культурнай працы людзей рукі пры працы аслаблі. Варта прыгадаць словы паэта:

*(Заканчэньне на 3-й бачыне)*

В.Сянькевіч

# ДА 175-ГОДЗЬДЗЯ АДНАЎЛЕНЬНЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

(Заканчэньне. Пачатак гл. № 3 (47)

Неўзабаве кіраўніцтва ВКЛ было пераўтворанае. Губэрні былі перайменаваныя ў дэпартаманты, а камісіі Часовай управы замененыя адміністрацыяй дэпартамантаў. У ліку камітэтаў, якія складалі Урадавую Камісію, быў і вайсковы камітэт, якім кіраваў князь Ал. Сапега, а пасьля ягонае сьмерці — палкоўнік (пазьней генэрал брыгады) Грабоўскі. У складзе Адміністра- цыйных Камісіяў дэпартамантаў былі Вайсковы Адзьдзелы.

5-га ліпеня 1812 г., адмысловым дэкрэтам, Напалеон Банапарт даручыў Часоваму ўраду ВКЛ сфармаваць пяць палкоў пяхоты й чатыры палкі кавалерыі, для чаго трэба было набраць 14 тысяч рэкрутаў, зь іх 4 тыс. для коньніцы. Адначасова быў сфармаваны трэці полк лёгкай кавалерыі Імпэратарскай Гвардыі, які складаўся пераважна з ахвотнікаў — шляхоцкае моладзі. Шэфам палка быў ураджэнец Слоніма генэрал брыгады Канопка.

На фармаваньне палкоў пяхоты ў мабілізацыйным парадку пастуціла навабранцаў: зь Віленскага дэпартаманту — 3 тыс., з Горадзенскага — 2 500 і зь Беластоцкага — 1 500 чалавек. Кавалерыя фармавалася ў наступны спосаб: з кажных 75 дымоў ішоў адзін коньнік з канём. На іх узбраеньне зьбіралася па 486 з палавінай злотых. Тэрмін службы Часовы ўрад устанаўляў аднолькавы для абодвых родаў войска — шасьцігадовы.

Гэтыя палкі ВКЛ атрымалі сваю нумарацыю: пяхота ад нр. 18 да 22-га, а кавалерыя (уланы) ад нр. 17 да 2о-га. Для лепшага зразуменьня арганізацыі войска адроджанага ВКЛ падаем табліцу палкоў, іх штабкватэраў, шэфаў і паветаў, зь якіх паходзілі

| №№ палкоў | Штаб-кватэра | Імя і прозьвішча шэфа | якія паветы далі рэкрутаў у полк. |
|---|---|---|---|
| 18. пяхотны | Вільня | Граф Аляксандар Хадкевіч | Віленскі, Завялейскі, Вількамірскі, Браслаўскі, Ашмянскі, Вялейскі. |
| 19. пяхотны | Расены | Граф Кастантын Тызэнгаўз | Троцкі, Ковенскі, Упіцкі, Расенскі, Шавальскі, Вількамірскі. |
| 20. пяхотны | Горадня | Барон Адам Біспінг | Горадзенскі, Лідзкі, Наваградзкі, Слонімскі, Воўкавыскі, Пружанскі, Пінскі. |
| 21. пяхотны | Беласток | Антон Гелгут (пасьля ў паўстаньні 1831 г. адзін з слаўнейшых яго правадыроў) | Кобрынскі, Берасьцейскі, Беластоцкі, Сакольскі, Бельскі, Драгічынскі, |
| 22. пяхотны | Менск | Граф Станіслаў Чапскі | Менскі, Дзісенскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Слуцкі. |
| 17. уланскі | Купішкі | Граф Міхал Тышкевіч | Віленскі, Завялейскі, Браслаўскі, Вількамірскі, Упіцкі, Расенскі, Шавальскі, Тэльшаўскі. |
| 18. уланскі | Нясьвіж | Граф Кароль Пшазьдзецкі | Менскі, Барысаўскі, Дзісенскі, Вялейскі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Слуцкі. |
| 19. уланскі | Наваградак | Канстантын Раецкі | Ашмянскі, Троцкі, Ковенскі, Горадзенскі, Лідзкі, Наваградзкі, Слонімскі, Ваўкавыскі. |
| 20. уланскі | Пінск | Ксавэры Абуховіч | Пінскі, Берасьцейскі, Кобрынскі, Пружанскі, Беластоцкі, Бельскі, Драгічынскі, Сакольскі, |

рэкруты. Табліцу гэтую апрäцаваў на аснове розных крыніцаў маëр Аляксандар Ружанец. Яна была зьмешчаная ў ягоным артыкуле "Літоўска-Белароускае войска Цэсара Напалеона", надрукаваным у выдаваным Вацлавам Ластоўскім у Коўні часопісе "Крывіч", нр. 6 за 1923 г. і зь якога мы, дарэчы, зачэрпнулі наш матар'ял пра войска ВКЛ для гэтага артыкулу.

На фармаваньне ўсіх гэтых палкоў Напалеон даў 500 тысяч франкаў. Полк пяхоты меў, паводля складу, 2487 чалавек і складаўся з трох батальёнаў, па 6 кампаніяў (рот) у кажным. Полк уланаў складаўся з 823 чалавек. Меў чатыры эскадроны, кажны зь якіх дзяліўся на 2 кампаніі (роты). Частка афіцэраў паходзіла з польскіх палкоў Вялікага Княства Варшаўскага. Рэшта-ж, а таксама большасьць падафіцэраў і ўсе рэкруты былі мясцовага, беларускага, або летувіскага паходжаньня.

Генэральным інспэктьарам войска ВКЛ быў ген., князь Рамуальд Гедройць, інспэктарам пяхоты — ген. брыг. Несялоўскі, інспэктарам кавалерыі — ген. брыг. Язэп Ваўрэцкі.

Апрача фармаваньня палкоў браліся таксама рэкруты й да батальёнаў стральцоў. Гэткіх батальёнаў было шэсьць. Камандавалі імі: Касакоўскі, Ракіцкі, гр. Казімер Плятар, Курчэўскі, Абуховіч і Ганскі. Усяго ў пяхотных і кавалерыйскіх палкох і батальёнах стральцоў было да 20 тысяч чалавек.

Як адзначае прыгаданы маëр А. Ружанец: "Доля ня была прыхільнай гэтаму літоўска-беларускаму войску, нядоўга давялося яму ваяваць: паварот Расейцаў спыніў яго дзейнасьць". Першая сутычка з маскалямі адбылася 20.10.1812 г. каля Слоніма, дзе стаяў конны полк ген. Канопкі. Расейцы разьбілі маладую гвардыю. Сам ген. Канопка, 17 афіцэраў і 217 падафіцэраў і коньнікаў трапілі ў палон. Змагаліся супраць расейскіх войскаў і іншыя вайсковыя адзьдзелы ВКЛ. Некаторыя зь іх далучыліся пазьней да корпусу гр. Панятоўскага, зь ім дайшлі да Варшавы, а пасьля змагаліся, баронячы Модлін. Уланы 20-га палка й частка ўланаў 19-га ўвайшлі ў склад 9-га польскага ўланскага палка, які быў пры корпусе Макданалда ў Гданску.

На долю 17-га й 19-га ўланскіх палкоў выпала цяжкая й вельмі адказная служба. Добра ўкамплетаваныя і ўзброеныя, яны павінны былі засланяць пры адыходзе праз Прусію да ракі Лабы тую маленькую жменьку зморaных, галодных і слабых жаўнераў "Вялікай арміі", што засталіся жывымі пасьля паходу ў глыб Расеі. Гэта яны, гэтыя ўланы графа Міхала Тышкевіча і Раецкага, прынялі на сябе й адбівалі напады мацнейшых і больш колькасных Казакаў і Башкіраў — маскоўскай кавалерыі. Нялёгкае заданьне яны выканалі з гонарам. Пасьля абодва гэтыя палкі былі ў корпусе маршала Даву, былі пад Гамбургам, трапілі ў Гольштын і Шлезвіг, дзе й стаялі з француз кімі войскамі аж да падпісаньня Парыскае мірнае ўмовы.

Мір гэты дазволіў ім вярнуцца спачатку ў Польшчу, дзе яны на працягу яшчэ двух гадоў служылі ў польскім войску пад камандай царэвіча Канстантына, а затым вярнуліся на бацькаўшчыну ў свае родныя вёскі.

Адбудова Напалеонам ВКЛ была адказам на падобную спробу цара Аляксандра І-га. Справа ўзнаўленьня Княства з аднаго боку Напалеонам, а пад пратэктаратам Расеі з другога — ня зьдзейсьнілася. На гэта склалася шмат акалічнасьцяў. Але сам факт ажыцьцяўленьня думкі адраджэньня ВКЛ у межах 1772 году., але бяз Польшчы, трэба лічыць станоўкім, пазытыўным і павучальным. Бо такім чынам Беларусь сталася-бы самастойным арганізмам і здабыла-бы міжнароднае значэньне. Гэты факт паказвае таксама як глыбокае карэньне мела ў нашым народзе традыцыя сваёй незалежнай дзяржавы ў форме Вялікага Княства Літоўскага.

. . . . . . . . . . . . . . .

**ЛІТАРАТУРА:** Гинзбург С.М. "Отечественная война 1812 года и русские евреи", СПб 1912, перавыд.: Тэль Авіў 1973, 144 б.; Ружанец Аляксандал "Літоўска-Беларускае войска Цэсара Наполеона", "Крывіч", Коўна 1923, нр. 6, бб. 31-34; Lewicki A. 'Zarys historji Polski', Londyn 1943, str. 265-283; Kukiel Marjan, gen., 'Zarys historji wojskowosci w Polsce', Londyn 1949, wyd. 5, str. 147-179; Пануцэвіч В. "Плян Агінскага ў 1811 г. аб узнаўленьні Вялікага Княства Літоўскага", "Бацькаўшчына", нр.нр. 35(470) 1959 — 38-39 (474-475) 1959; Корнейчик Е. И. "Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г.", Минск, 1962; "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя", т. 1, Мн. 1969, бб. 172-175; "Белоруссия в эпоху феодализма, т. 4, Мн. 1979; "Гісторыя Бел. ССР", т. 1, Мн. 1972, бб. 457-471; Kozlowski Eligiusz, Wrzosek Mieczyslaw 'Dzieje oreza polskiego' 1794-1938', Warszawa 1973, бб. 5-99; Тарасов Константин "Память о легендах: белорусской старины голоса и лица", Мн. 1984, бб. 130-142.

## ПРАЕКТ

*"Крыкі пужлівых людзей*
*ня стрымаюць хай бітвы размах.*

Мы ў бітве супраць цёмных і варварскіх сілаў ня толькі за захаваньне, але й рост беларускае літаратуры, мовы, культуры, народнае душы. Дык прынамся мы павінны сур'ёзна падлічыць свае сілы, параіцца, паставіць агульную мэту...

Тымбольш, што такога пытаньня раней мы не стаўлялі.

**А калі мы не паставім і ня зробім, то хто?**

**А калі не цяпер, то калі?**

Просім чытачоў пісьмова выказвацца на гэтую тэму й гэтай справе абяцаем прысьвяціць даволі ўвагі ў будучых нумарох нашага сьціплага часапісу.

*К. Акула*



Я. Дамель. *Адступленьне Французаў праз Вільню.*

Я. Б-ка

# ВАЙНА 1812 ГОДУ І БЕЛАРУСКІЯ ЖЫДЫ

У 1912 г. у Маскоўскай імпэрыі гучна адзначалася стагодзьдзе расейскае перамогі ў т. зв. ”айчыннай вайне” 1812 году. З гэтай нагоды зьявілася была вялікая колькасьць навуковых працаў і працаў патрыятычна-папулярнага, прапагандавага характару пра падзеі стогадовай даўнасьці. Сярод іх заслугоўвае на ўвагу праца С. М. Гінзбурга ”Отечественная война 1812 года и русские евреи”, якая выйшла ў Пецярбургу ў 1912 г. і была перавыдадзеная ў 1973 годзе ў Ізраэлі. Праца гэтая ў нас малавядомая. Яна была неяк незаўважаная і амаль нідзе ня згадваецца ў літаратуры пра вайну 1812 г. на Беларусі. А для нас, Беларусаў, яна надзвычайна цікавая тым, што ў ёй аўтар, базуючыся на адрывістым і скупым, але канкрэтным матар'яле, робіць спробу высьвятленьня пытаньня, амаль яшчэ зусім не закранутага гістарычнай літаратурай, а менавіта — аб ролі Жыдоў б. Вялікага Княства Літоўскага, у васноўным Жыдоў беларускіх, у вайне 1812 г. і іхных адносінах да тагачасных падзеяў.

Мы сказалі ”аб ролі Жыдоў б. ВКЛ, у васноўным Жыдоў беларускіх”, бо, ня гледзячы на загаловак ”русские евреи”, у сапраўднасьці ў працы С. М. Гінзбурга гаворка йдзе пра Жыдоў беларускіх і, у меншай ступені, Жыдоў летувіскіх.

Наагул, аўтар пазьбягае назову ”Вялікае Княства Літоўскае”. Ён увесь час гаворыць пра жыдоўскае насельніцтва ”Літвы й Беларусі”. Тое самае робяць і некаторыя беларускія савецкія аўтары сяньня. Тэрмін ”Вялікае Княства Літоўскае”, як выглядае, быў непажаданым як у літаратуры пачатку, гэтак і канца XX-га стагодзьдзя, як у расейскай царскай, гэтак і ў савецкай гістарычнай літаратуры.

Гэты факт падкрэслівае сам аўтар у прадмове, кажучы, што ”дасьледваньне нашае абмяжоўваецца жыдоўскім насельніцтвам абласьцей, далучаных ад Польшчы і якія ў 1812 г. былі пад панаваньнем (”владычеством”) Расеі, не закранаючы Жыдоў Варшаўскага герцагства і іншых краінаў, дзе палітычныя адносіны й настроі ў апісваны час мелі іншы характар”.

Праца С. М. Гінзбурга ”Отечественная война 1812 года и русские евреи” складаецца з 11 разьдзелаў. У першым разьдзеле аўтар расказвае пра французкую рэвалюцыю канца 18 ст., званую ”Вялікай французкай рэвалюцыяй 1789-1794 гадоў”, пра ўплыў напалеонаўскіх паходаў на становішча Жыдоў у Эўропе, аб скліканьні т. зв ”вялікага сінэдрыёна” ці зьезду ў Парыжы ў 1806 г. і боязі аўстрыйскага ўраду. Спыняецца на цыркуляры барона фон-Зумераў і данясеньнях мясцовых уладаў і на памылковай трывозе ды на сапраўднай ролі ”вялікага сінэдрыёну”, ягонай дзейнасьці й складзе ды стаўленьні да яго нефранцузкага жыдоўства.

”Вялікая рэвалюцыя, — адзначае аўтар, — зраўняўшы Жыдоў у правох з рэштай грамадзянаў Францыі, паклала пачатак і эмансыпацыі Жыдоў у іншых краінах Заходняе Эўропы. Пераможны паход французкіх войскаў прыносіў з сабою таксама свабоду Жыдам. Ужо ў 1796 г. упалі абмежаваньні для апошніх у Батаўскай рэспубліцы, створанай Французамі на месца Галяндыі. Абвешчаная рэвалюцыяй ідэя роўнасьці правоў грамадзян, незалежна ад іхнага веравызнаньня, за кароткі час пусьціла ў Францыі дастатковае карэньне, каб ня толькі ўстаяць тут пасьля праведзенага неўзабаве дзяржаўнага перавароту, але й пашырыцца на тэрыторыі, якія апынуліся пад французкім панаваньнем”.

Паводля аўтара, Напалеон, распаўсюджваючы на заваяваныя ім краіны фравнцузкія ўстановы, адначасна ўводзіў тут і раўнапраўе Жыдоў. Бамбардзіроўка ген. Жарданам Франкфурта-на-Майне, у часе якой было разбуранае мясцовае гета, як-бы сымбалізавала сабою тыя вынікі, што мелі для эмансыпацыі напалеонаўскія паходы. Зьяўленьне дзе-колечы французкага гарнізону амаль заўсёды суправаджалася скасаваньнем абмежаваньняў, якія душылі Жыдоў. Пад уплывам французкіх заваёваў, Жыды здабылі свабоду ў новым каралеўстве Вэстфалія, у Бадэнскім герцагстве, Гамбургу, Брэмэне, Любэку. Навет Прусіі давялося адмовіцца ад некаторых з абмежаваньняў яе падданых — Жыдоў. Толькі Баварыя, Саксонія і Аўстрыя ўпарта не паддаваліся духу часу. А Аўстрыя навет узмацніла скіраваныя супраць іх рэпрэсіі, дадаючы новыя абмежаваньні.

Калі ў верасьні 1806 году Напалеонам было аб'яўлена сходу жыдоўскіх дэпутатаў пра скліканьне ў Парыжы ”вялікага сінэдрыёну”, аўстрыйскі ўрад устрывожыўся. Венскія ўлады спалохаліся, баючыся, што мэтай скліканьня ”вялікага зьезду” было прыцягнуць жыдоўскае насельніцтва да супрацоўніцтва й да вызваленьня яго ад абмежаваньняў, накінутых хрысьціянамі.

Якое-ж ураджаньне зрабіла скліканьне ”Вялікага Сінэдрыёну” ў Расейскай імпэрыі? Аб гэтым С. М. Гінзбург расказвае ў другім разьдзеле сваёй працы. Базуючыся на паведамленьнях і водгуках тагачасных расейскіх газэтаў і на цыркуляры міністра нутраных справаў з прычыны жыдоўскага кангрэсу ў Парыжы, аўтар паказвае, што трывога, выкліканая гэтым кангрэсам у Аўстрыі, адбілася і ў Расеі. Расейскія ўлады ўстрывожыліся магчымымі палітычнымі й грамадзкімі вынікамі ”Вялікага Сінэдрыёну”.

Аднак, паводля аўтара, трывога гэтая была неабгрунтаваная. Прычынай гэтага было тое, што расейскі ўрад быў амаль цалкам непаінфармаваны пры сваіх падданых — Жыдоў. ”Думаць, што беларуска-літоўскія Жыды пачатку XIX ст., — піша С. М. Гінзбург, — будуць лічыць сапраўдным сінэдрыёнам парыскі зьезд, зь ягонымі лёгкімі адносінамі да карэнных рэлігійных пастановаў, будуць спачуваць рэлігійнай рэформе, якая адбывалася ў сталіцы Францыі, каб дагадзіць сьвецкай уладзе, і выклікаць, у сувязі з гэтым, між іх сымпатыі да французкага ўраду, — гэта значыла ня мець ніякага ўяўленьня пра нутраное жыцьцё й настроі тагачаснага жыдоўскага насельніцтва Расеі, зь ягонай яшчэ незакранутай артадаксальнасьцяй. Расейскія Жыды таго часу ўяўлялі сабою аднароднае асяродзьдзе, якое было глыбока прасякнутае вернасьцю рэлігійным запаветам, адхіленьне ад акружаючага яго сьвету сваім уласным жыцьцём.

Для меркаваньня пра вялікія падзеі, што адбываліся ў Эўропе канца 18 — пачатку 19 ст. ст., тут існаваў толькі адзін крытэрый — рэлігійны. Думаць, што ў такім асяродзьдзі магла існаваць цяга да Французы — адзначае аўтар, — было выразнай недарэчнасьцю; выклікаць такое падазрэньне магло толькі поўнае няведаньне".

Страх перад уяўнымі французкімі інтрыгамі, апроч паліцэйскіх вышыкаў і наглядаў, выклікаў таксама некаторыя вынікі і ў галіне пытаньня высяленьня Жыдоў зь сельскіх мясцовасьцяў. Гэтак, паводля артыкулу 34 Палажэньня аб Жыдох 1804 г. было пастаноўлена выселіць усіх Жыдоў зь сёлаў і вёсак Заходняга краю (г. зн. зь земляў б. Вялікага Княства Літоўскага і Украіны), прычым гэтае выдаленьне іх загадана было закончыць на працягу трох год, да пачатку 1808 году.

Каля 60 тысяч жыдоўскіх сем'яў, — кажа С. М: Гінзбург, — што пражывалі ў сельскіх мясцовасьцях, адным росчыркам пяра асуджаныя былі на поўную галечу — з наседжаных месцаў, дзе яны здабывалі хоць нейкае прахарчаваньне, іх выганялі ў гарады, у якіх не хапала заняткаў і для наяўнага жыхарства. Дарэмныя былі стараньні й просьбы жыдоўскіх абшчынаў, навет даклады губэрнскіх уладаў, якія паказвалі на цяжкасьці, што яны сустракалі пры выконваньні 34 артыкулу Палажэньня. Высяленьне працягвалася зь няўмольнай лютасьцю".

І аўтар цытуе ўрывак з працы Б. Нікіціна "Евреи-земле- дельцы", выдадзенай у Пецярбургу ў 1887 г., паводля якога: "Тых, што яшчэ ня выбраліся дабраахвотна зь вёсак... гналі зь іх сілаю6 манаткі тых, што выказвалі непаслухмянасьць, зьнішчалі. Жыды прасілі адтэрміноўкі, галасілі й стагналі, але усё было дарэмна: іх бязьлітасна выводзілі пад канвоем сялян і навет жаўнераў. Іх заганялі, нібы жывёлу, у мястэчкі й гарадкі й там, на плошчах, пад адкрытым небам, пакідалі разважаць пра зьменлівасьці лёсу. У запале роспачы яны падавалі ўсім уладам цэлымі стосамі жаласьлівыя просьбы...".

Але чаго не маглі зрабіць ні просьбы няшчасных, ні ўмяшаньне мясцовых уладаў, тое зрабілі боязі перад падкопамі Напалеона. Міністар нутраных справаў, граф Качубей, ня толькі не падзяляў паглядаў начальнікаў губэрняў адносна адкладу высяленьня Жыдоў, але навет падрыхтаваў "указ" літоўскаму (у гістарычным значэньні гэтага слова) ваеннаму губэрнатару, якім у найбольш строгіх выказваньнях загадвалася правесьці гэтае высяленьне згодна з законам 1804 году.

Праўда, "указ" той ня быў выкананы з прычыны таго, што "Банапарт склікаў у Парыжы сход Жыдоў, галоўнай мэтай якога было даць жыдоўскай нацыі розныя прывілеі й стварыць сувязь паміж Жыдамі, расьсеянымі ў Эўропе". Імпэратар Аляксандар І 24-га жніўня 1806 г. загадаў стварыць камітэт зь міністраў для абмеркаваньня пытаньня, ці ня прыняць якія-небудзь асаблівыя меры й адкласьці высяленьне Жыдоў зь вёсак. Падчас абмеркаваньня гэтага пытаньня ўзьніклі разыходжаньні. Адныя выказаліся за тое, каб высяленьне было выканана ў строгім парадку (ген. Гудбэрг), іншыя — (князь Чартарыйскі) прапанаваў неабходнасьць пэўнага паслабленьня гэтага працэсу.

Боязі, выкліканыя парыскім сінэдрыёнам, аказаліся, аднак, зусім дарэмнымі, вайна з Французамі летам 1807 г. закончылася й матывы, якія схілялі ўрэшце ўрад да паслабленьня працэсу высяленьня Жыдоў зь сельскіх мясцовасьцяў, самі сабою адпалі. Указам ад 19-га кастрычніка 1807 г. на імя губэрнатараў заходніх губэрняў загадана было аднавіць высяленьне жыдоўскага насельніцтва з разьлікам, што да канца 1810 г. яно павінна быць закончанае.

Аднак гэтага ня сталася. Міністар Куракін, які замяніў Качубея, дабіўся, каб працэс высяленьня быў спынены, прынамся часова. На думку Гінзбурга, гэтым разам сваю ролю сыйгралі мяркаваньні палітычнага характару: мядовыя дні збліжэньня з Напалеонам хутка зьніклі; акалічнасьці сустрэчы ў Эрфурце, якая адбылася ў верасьні 1808 г., паказвалі на нятрываласьць саюзу паміж Францыяй і Расеяй, створанага Тыльзіцкім мірам; адчувалася, што неакрэсьленасьць сытуацыі, якая наступіла, няўхільна прывядзе да новага сутыкненьня двух дзяржаваў і пры такіх палітычных аўсьпіцыях выклікаць рэпрэсіямі раздражненьне сярод жыдоўскага насельніцтва ў пагранічных мясцовасьцях магло здавацца нямэтазгодным.

Гэтыя паслабленьні й рэпрэсіі, якія чаргаваліся на зьмену ў галіне высяленьня Жыдоў, у залежнасьці ад палітычных і ваенных абставінаў, прыпомнілі аўтару працы Гінзбургу аналягічную зьяву, якая мела месца прыблізна праз сто год: пасьля таго, як пачалася вайна зь Японіяй (1904 г.), прызнаная была неабходнасьць спыніць высяленьне Жыдоў, якое пазьней было адноўленае з падзесяцяронай энэргіяй. "Гісторыя, — кажа аўтар, — зрабіла стаўленьне на Жыдоў барамэтрам для бюракратычнага настрою, які дзейнічае з рэдкай дакладнасьцяй і дзіўнай нязьменнасьцяй". Сучасная савецкая палітыка адносна эміграцыі Жыдоў з Савецкага Саюзу поўнасьцю пацьвярджае меркаваньне Гінзбурга, выказанае 75 гадоў назад.

(*Заканчэньне будзе*)

## УШАНАВАЛІ АЛЕСЯ ГАРУНА

У нядзелю 27-га верасьня Беларусы Таронта й ваколіцаў ушанавалі 100-я ўгодкі ад нараджэньня выдатнага беларускага паэта часоў нацыянальнага адраджэньня й выдатнага вайсковага дзеяча з часоў Беларускай Народнай Рэспублікі Алеся Гаруна (Аляксандра Прушынскага).

Паніхіду ў царкве сьв. Кірылы Тураўскага служыў Высокадастойны Першы Ярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Архіяпіскап Мікалай. У грамадзка- царкоўнай залі, пасьля памінальнага абеду, даклад пра Алеся Гаруна, ягоны кароткі, але як-жа плённы для беларускага культурнага й палітычнага росту, шлях зрабіў рэдактар "Зважай", пісьменьнік Кастусь Акула.

Пры канцы дакладу ўвага была зьвернутая на спробы бальшавіцкіх цемрашалаў у акупаваным Менску, каб рэгабілітаваць творчасьць і самую асобу Алеся Гаруна. Дзеля таго, разам із намерамі выдаць "лепшыя" (значыцца ацэнзураваныя) творы Гаруна, створаныя новыя нябыліцы пра Беларускую Вайсковую Камісію, старшынём якое Алесь Гарун быў, ды пра Гаруновы спробы ...збліжэньня з бальшавікамі.

*З нагоды 70-гадовага юбілею*
*Старшыні Беларускіх Вайсковых Вэтэранаў*
*у Вольным Сьвеце*
**Генэралу Язэпу Сажычу**
жадаем
*добрага здароўя і шматлікіх,*
*плённых у працы для вызваленьня*
*паняволенай Бацькаўшчыны,*
*гадоў жыцьця!*

*"Зважай"*

## ЦЫТАТА НА СЯНЬНЯ:

"Круглы стол "Нашего современника", выступленьні вучоных- аграрнікаў.

Успомніўся вывешаны ў школе-інтэрнаце сьпіс краін (здаецца, пяці), сярод якіх мы займаем першае месца па таннасьці хлеба ў магазінах.

А з тых краін, вядома, найбольшых, толькі мы купляем збожжа за мяжою... Маючы 190 мільёнаў га чарназёму — з 300 мільёнаў га ва ўсім сьвеце!

Як гэта пасапраўднаму зразумець?"

Янка Брыль. "Хлеб надзённы". "Полымя", бач. 14-15, Менск, Нр.7(699), ліпень, 1987.

*Адказ народнаму пісьменьніку*: **Усяму вінаваты, Янка, калгасны прыгон. Ён, ён! А моладзь супраць таго прыгону цяпер нагамі галасуе... зь вёскі ды ў горад! А там, у моры расейшчыны, духова наглее! Во як!**

Калгасьнікі, пад наглядам брыгадзіра — зьненавіджанага цівуна, стаўленьніка бальшавіцкай буржуазіі, — прыгоннае сеюць... А вы ў нас, у Канадзе, ці іншай Амэрыцы, збожжа купляеце... І гэта ўсё прадаўжаецца ў "гаспадароў", пад уладай якіх знаходзіцца дзьве трэція чарназёму цэлай плянэты!

І ўжо каму, як каму, а не табе, Янка, душой крывіць! Табе ня можа быць няведамае вялізнае народнае гора, калі голымі амаль з "раськіданых гнёздаў" выганялі міліёнамі самых найбольш працавітых і дбайных сялянаў, тых, што некалі запасамі збожжа эўрапэйскія й сусьветныя рынкі засыпалі. І яныж зямлю прымітыўна апрацоўвалі, бяз помачы мадэрненькіх гом- і іншых -сельмашаў.

Вось табе, Янка, замiж разам зь "Львом Николаевичем" філязофстваваць, узяць-бы ды хоць макулінку таго народнага гора, калі гналі ў калгасную прыгоншчыну, у мастацкай літаратуры адтварыць! Выйшла-б, — дальбог, веру, — ня горш чым у тым "Мы з вогненнай вёскі"!

Не хапае адвагі, народны пісьменьнік? Ну ясна, філязофстваваць у пустое лягчэй!




*У ліку ўдзельнікаў Беларусаў — група із нацыянальным беларускім бел-чырвона-белым сьцягам перад ратушай Таронта. Зьлева направа (першы із плякатам "Вольнасьць для Беларусі") — Кастусь Шаршуновіч, Архіяпіскап Мікалай, спня Э. Пітушка, трымае беларускі сьцяг Роланд Цялеш, перад ім — старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады др. Раіса Жук Грышкевіч і трымае другі плякат А. М. Часова адсутная — Юльляна Г. Здымка К. Акулы.*

## УГОДКІ ГАНЕБНАГА ДНЯ ХАЎРУСУ СТАЛІНА З ГІТЛЕРАМ

## ДЗЕНЬ »ЧОРНАЕ СТУЖКІ« Ў ТАРОНЬЦЕ

23-га жнівеня сёлета, у нядзелю, надзвычайна прыгожы й пагодны дзень, на пляцы перад ратушай гораду Таронта сабралася (паводля падліку прэсавых карэспандэнтаў) звыш шэсьць тысяч людзей. У іх ліку была маса імігрантаў з краінаў паняволеных Москоўшчынай, але вялікі ўдзел брала й моладзь. Сёлета такія дэманстрацыі адбыліся ў адзінаццаці канадыйскіх гарадох, ды ў іншых гарадох Вольнага Сьвету.

Злачынная ўмова Сталіна зь Гітлерам у 1939 годзе дала Гітлеру магчымасьць распачаць атаку на вольныя краіны Эўропы і Другую сусьветную вайну. У гэным злачыне Масква вінаватая ня менш Бэрліну, бо гэта яна амаль на працягу двух гадоў забясьпечвала нямецкія арміі і індустрыю усялякай неабходнай сыравінай ды харчамі.



На сцэне перад ратушай, перад пачаткам урачыстасьці — ганаровыя госьці, у ліку якіх сёмы зь левага боку — Першы Ярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Архіяпіскап Мікалай, за ім, у другім радзе старшыня ЗБК, др. Раіса Жук-Грышкевіч.

*Здымка К. Акулы*

Характэрна, што ў ліку прадстаўнікоў бальшыні паняволеных Масквою народаў, сёлета выступаў і Афганістанец, сам пакалечаны цяперашняй вайной у ягонай бацькаўшчыне, дзе вось Масква ваюе, каб паняволіць гэройскі Афганістан ужо сем гадоў.

Прэм'ер-міністар Канады Б. Малроні прыслаў таронцкім дэманстрантам прывітаньне, а ягоны міністар фінансаў Вілсан выступаў з прамовай. Таксама выступаў і прадстаўнік прывінцыі Антарыё ды старшыня гораду Таронта.

Беларусы сёлета першы раз узялі ў дэманстрацыі ўдзел. Жадаем, каб яны і ў будучыні памагалі арганізацыі "Дня чорнай стужкі", ды бралі ўдзел у дэманстрацыях большым лікам. Трэба прыгадваць Вольнаму Сьвету, што маскоўскія злачынцы нясуць поўную віну за злачынствы Другой сусьветнай вайны, што яны й цяпер вядуць злачынныя войны ў цэлым сьвеце, як прыкладна ў Афганістане, Этыёпіі, Нікарагуа, Паўдзённай Афрыцы, Анголі й іншых краінах. А самае важнае — трэба прыгадваць, што сама наша, цяпер паняволеная Маскоўшчынай бацькаўшчына, у вялікай небясьпецы. Беларускай мове, культуры, традыцыям, не гаворачы ўжо пра царкву, пагражае сьмерць.

Мы, выгнаньнікі з "раськіданых гнёздаў", маем голас у Вольным Сьвеце. Наш голас даходзіць да паняволенага маскалямі народу. Дык мусім гэтаму Вольнаму Сьвету прыгадваць, што наш паняволены народ, адна зь першых ахвяраў маскоўскае чырвона-фашыстоўскае імпэрыі, спадзяецца на Бога й на помач вольных народаў у ягоным змаганьні за вызваленьне спад чырвона- фашыстоўскага маскоўскага ярма.

## АДЗНАЧЫЛІ СОТЫЯ ЎГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ АЛЕСЯ ГАРУНА

Сёлета ў сыботу 5-га верасьня Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў урачыста адзначала 100-я ўгодкі нараджэньня паэта, змагара й вайскавіка Алеся Гаруна (Аляксандра Прушынскага). Зьбіраліся а сёмай раніцы ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Гайланд Парку, а адтуль аўтамі паехалі на беларускі могільнік, дзе на шырокай прасторы велічна стаіць помнік Беларускім Гэроям. Трымала добрая пагода. Пры ўваходзе на могільнік залуналі амэрыканскія, беларускія й вэтэранскія сьцягі — пад імі калісь вэтэраны служылі ў розных вайсковых фармацыях.

А гадзіне дзясятай, у прысутнасьці публікі, вэтэраны паднялі на машты беларускі й амэрыканскія сьцягі. Перад помнікам злажылі вянок у пашану памяці Алеся Гаруна й тых, што змагаліся, каб жыла Вольная Беларусь. Сяржант парадку Лявон Шурак прачытаў прысягу, пасьля прысутныя прасьпявалі "Беларусь, — наша Маці-Краіна". Маёр С. Гутырчык, камандзер ЗБАВ злажыў рапарт Генэральнаму Капэляну й Апякуну Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне, архіяпіскапу Мікалаю. Распачалася паніхіда па Алесю Гаруну й усіх загінуўшых у змаганьні за вольнасьць Беларусі, якую, у прысутнасьці Ўладыкі Мікалая служыў мітр. прат. а. Карпп Стар. Прысутнічалі вэтэранскія сьцяжныя варты з Кліўленду на чале зь лейт. Я. Каваленкам і з Усходняга Ўзьбярэжжа ЗША ,на чале зь лейт. М. Абрамчыкам, які заступіў сьцяжнога Аляксандра Койку, што адыйшоў на вечны супачын.

Пасьля паніхіды, маёр М. Тулейка, заступнік камандзера ЗБАВ, прачытаў даклад пра дзейнасьць Алеся Гаруна ў вайсковай галіне для дабра Беларусі. Даклад быў добра апрацаваны, за што маёру Тулейку належыцца падзяка. Пасьля дакладу ўсе прысутныя прасьпявалі "Сьпі пад



*Удзельнікі ўрачыстасьці, прысьвечанай Алесю Гаруну, пры помніку Беларускім Гэроям. Пасярэдзіне — Архіяпіскап Мікалай.*



*Сьцяжныя варты Беларуска-Амэрыканскіх вайсковых вэтэранаў.*

Курганам Гэрояў". Маёр С. Гутырчык падзякаваў усім прысутным. Адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн.

Апроч мясцовых, на ўрачыстасьці прысутнічалі: старшыня Рады БНР ген. др. Я. Сажыч, старшыня Галоўнай Управы БАЗА мгр. А. Шукелойць, старшыня Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскай Моладзі інж. Юрка Азарка, старшыня адзьдзелу БАЗА ў Ню Ёрку А. Міцкевіч, старшыня сэктару Рады БНР у штаце Агаё А. Стрэчынь, Я. Ханенка і інж. К. Калоша з Кліўленду, мгр. В. Пляскач із сваёй Спадарыняй і Вера Артон з Дэтройту, старшыня сэктару Рады БНР з Канады Мікола Ганько й Марыя Ганько, А. Нікановіч з Таронта й пара іншых суродзічаўзь Беласточчыны,, што нядаўна пасяліліся ў Канадзе. Злучаным царкоўным хорам кіраваў сп. Я. Сапежынскі, якому нашыя вэтэраны на гэтым месцы дзякуюць.

*Сяргей Пчала*

*Усе здымкі выкананыя вэтэранам Карэйскае вайны А. Дубягам.*

## АБВЕСТКА

Сп. Балеслаў Лішчонак, на свой кошт, выдаў дзьве розныя касэты зь беларускімі песьнямі й танцамі. Цана аднэй касэты — 6.00 дал., амэрыканскіх ці канадыйскіх. Перасылку аплачвае пакупнік. Замаўляць у выдаўца, або вызначанага агента мясцовага згуртаваньня. Зьвяртацца на адрас:

Mr. B. Lisczonak, 472 Byron Court, Oshawa, Ont., L1H 6R9

## ПРА ПОМНІК НА МАГІЛЕ ГАРУНА

Пры адданьні ў друк гэтага нумару нашага часапісу (у канцы кастрычніка) нам яшчэ няведама было ў якой стадыі выкананьня быў праект будовы помніка Алесю Гаруну на ягонай магіле на Ракавіцкім могільніку ў Кракаве. Спадзяемся скора атрымаць пра гэта весткі.

*Рэд. "Зважай"*

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад пачатку жнівеня да канца кастрычніка сёлета касу нашага часапісу папоўнілі: Юрка Акула — 5.00 дал., А. М. — 5.00, др. Рамук — 31.00, К. Ёлаб — 9.00, М. Ёлаб — 9.00, Вера Раецкая — 9.00, Міхась Раецкі малодшы — 18.00, А. Лашук — 21.28, Б. Лішчонак — 20.00, др. В. Сянькевіч — 30.00, С. Гутырчык (з продажы) — 32.50, К. Акула (з продажы) — 12.00, ген. Язэп Сажыч — 130.00, Г. П. — 6.50.

*Разам — 338.28 дал. Усім за помач вялікае дзякуй!*

## ЮБІЛЕЙ СТАРШЫНІ РАДЫ БНР

У нядзелю, 6-га верасьня, нашае грамадзтва зь Ню Брансвіку й Ню Ёрку, ды госьці з Дэтроіту, Кліўленду й Таронта ушанавалі старшыню Рады БНР, д-ра ген. Язэпа Сажыча, якому споўнілася 70 гадоў.

Пасьля сьв. Літургіі ў царкве БАПЦ, за супольным сталом у царкоўнай залі Беларусы із ЗША й Канады праз сваіх прадстаўнікоў, а іншыя — пісьмова із цэлага Вольнага Сьвету — жадалі старшыню Рады Беларускай Народнай Рэспублікі добрага здароўя і многа гадоў плённай працы на ніве змаганьня за вызваленьне паняволенай Маскоўшчынай Беларусі.

*Папраўка*

*У папярэднім нумары "Зважай", у хроніцы, было памылкова напісана, што "Міхасю Сільвановічу — 82". Ня з нашай віны юбіляр падмаладзіўся на тры гады. Яму мінула 85 гадоў.*

Рэд




*"Перастройцы" дайце волю:*
*Мы пацягнем і папхнём!*
*На калгас-прыгонным полі*
*У дастатак не нажнём,*
*Дык у Канадзе "лішкі" купім!*